«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

# НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№2(26) февраль 2012

# ПЛАНЫ НА НОВЫ ГОД

**Сябры Цэнтра імя Драздовіча абмеркавалі планы на новы год.**

7 студзеня, на праваслаўнае Раство, сябры грамадскай арганізацы "Культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча" сабраліся, каб падвесці вынікі 2011 года і абмеркаваць планы на 2012-ы.

Першай слова ўзяла **Ада Райчонак**, старшыня Цэнтра Драздовіча, лаўрэатка прэміі "За свабоду думкі" 2010 года. "Мы робім болей, чым робяць грамадскія актывісты ў Паставах і Глыбокім. Мы працуем на захаванне мовы, культуры, змагаемся за нашу спадчыну", - адзначыла Ада Эльеўна і пачала пералічваць мерапрыемствы, зладжаныя пры ўдзеле арганізацы.

У 2011 годзе быў праведзены шэраг выставаў карцін, напісаных падчас плэнэру ў гонар **Эміліі Плятэр**, што адбываўся на Браслаўшчыне ў 2009 годзе. Выставы прайшлі ў Шаркоўшчыне, Наваполацку, Віцебску, Мінску.

Яшчэ адной справай быў удзел у правядзенні штогадовай імпрэзы на радзіме **Васіля Быкава**, прымеркаванай да гадавіны з дня нараджэння пісьменніка. 16 ліпеня была праведзеная рэгіянальная краязнаўчая канферэнцыя ў Германавічах. 6 жніўня ў Германавічах адбыўся вечар бардаўскай музыкі, на якім выступілі васьмёра выканаўцаў.

Сябры Цэнтра Драздовіча займаліся і дабрачыннасцю. Дапамаглі сёлета тром чалавекам, якія знаходзяцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы.

Планаў на 2012 год аказалася багата. Падчас сустрэчы абмяркоўваліся планы правядзення мастацкага плэнэру ў вёсцы Бычкі, дзе нарадзіўся пісьменнік Васіль Быкаў. Плануецца правесці абласную краязнаўчую канферэнцыю, прымеркаваную да 120-годдзя з дня нараджэння гісторыка **Отана Гедэмана**, які ў міжваенны час напісаў некалькі



кніг пра наш рэгіён. Абмяркоўвалі і правядзенне суботніка на сядзібе садавода **Івана Сікоры** ў вёсцы Малыя Алашкі.

Асаблівую ўвагу Ада Райчонак надала папулярызацыі імя ўдзельніцы паўстання 1831 года Эміліі Плятэр – шляхцянкі, якая стварыла і ўзначаліся адзін з паўстанцкіх атрадаў. "Не тое што вучні, але нават настаўнікі не ведаюць такіх імёнаў, як Эмілія Плятэр або **Барыс Кіт**", - з жалем адзначыла Ада Райчонак. У музеі **імя Міхася Райчонка** будзе асобная зала, прысвечаная Эміліі Плятэр.

Сустрэча адбывалася ў прыватным доме ў Шаркоўшчыне. На яе сабраліся дзесяць сябраў і прыхільнікаў арганізацыі. І хоць большасць іх - асобы старэйшага веку, яны гатовыя далей цягнуць на сабе справу, мэту якой не разумеюць большасць іх землякоў.

*Кастусь Шыталь*

# КАМПАНІЮ ВЫКАРЫСТАЦЬ ДЛЯ АГІТАЦЫІ

**У партыі БНФ няма мэты, каб яе сябры былі абраныя дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў, аднак выбарчую кампанію партыя мае намер выкарыстоўваць для агітацыі.**

Пра гэта заявіў 2 лютага на брыфінгу ў Менску старшыня партыі БНФ **Аляксей Янукевіч.**

«Мы максымальна будзем вылучаць людзей у выбаркамы, максымальна будзем вылучаць кандыдатаў па ўсіх акругах, дзе мы зможам знайсьці моцных кандыдатаў і сфармаваць іх каманды. Па тых акругах, дзе будзе неабходна, будзем фармаваць агульныя штабы і каманды кандыдатаў, каб даносіць пазыцыю партыі БНФ па актуальных праблемах, у тым ліку пра пагрозу незалежнасьці Беларусі, пра наяўнасьць у краіне палітвязьняў і пра недэмакратычнасьць існуючай працэдуры выбараў», — сказаў Янукевіч.

Ён адзначыў, што партыя БНФ мае намер зьняць усіх сваіх кандыдатаў да пачатку датэрміновага галасаваньня, «калі будзе заставацца за кратамі хаця б адзін палітвязень, і ў тым выпадку, калі хаця б аднаго нашага прадстаўніка ня ўключаць у склад выбарчых камісій».

«Зьняцьце нашых кандыдатаў будзе азначаць, што мы ня лічым для сябе маральным або прымальным апынуцца ў Палаце прадстаўнікоў. Гэты орган усё роўна ня можа лічыцца легітымным. Адпаведна, мэта трапіць у гэты орган для нас і для нашых кандыдатаў у дэпутаты не стаіць, нават як другарадная і дадатковая. Нават калі ўлады прымуць рашэньне прапусьціць пару-тройку кандыдатаў ад партыі БНФ у парлямэнт, гэта ня будзе мець ніякага значэньня для таго, каб выконваць задачы партыі».

«Вызваленьне палітвязьняў зьяўляецца першай, але не адзінай нашай умовай. Другая ўмова — уключэньне нашых прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій усіх узроўняў. Але наш сцэнар — дынамічны. І ён можа зьмяняцца ў залежнасьці ад зьмены сытуацыі».

*Радыё Свабода*

# ВІЦЕБСКІ КРАЁВЫ СЛОЎНІК

**Выйшаў з друку "Віцебскі краёвы слоўнік", напісаны М.Каспяровічам (упершыню быў надрукаваны ў 1927 г.). Прапануем вашай увазе прадмову С. Запрудскага.**

Напісаны **Мікалаем Каспяровічам** на аснове матэрыялаў Віцебскага акруговага краязнаўчага таварыства "Віцебскі краёвы слоўнік" быў першым у серыі краёвых слоўнікаў, падрыхтаваных у выніку масавай краязнаўчай работы. Усяго меркавалася сабраць матэрыял для 16 падобных прац, якія адлюстроўвалі лексіку тагачасных адміністрацыйных акруг (складаліся з 10 – 12 раёнаў). Аднак было наперад вядома, што не ўсе слоўнікі акажуцца выкананымі на добрым узроўні, таму планавалася апублікаваць толькі лепшыя. Камісія жывой беларускай мовы Інстытута беларускай культуры, якая займалася арганізацыяй гэтай работы, мела выключна мала часу для яе правядзення. У верасні 1925 года была надрукавана "Інструкцыя для збірання слоўніка-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове", у лістападзе гэтага ж года разам з лістоўкай-заклікам "Да беларускага настаўніцтва" яна была разаслана акруговым і мясцовым краязнаўчым арганізацыям. Канчатковым тэрмінам збору матэрыялу была вызначана дата 1 студзеня 1927 года. Гэта быў празмеру аптымістычны тэрмін для такой грандыёзнай работы, у выніку матэрыялы збіраліся і пазней. На працягу трох гадоў у камісію з тэрыторыі Мінскай акругі паступіла больш за 18 тысяч картак, з Мазыршчыны і Бабруйшчыны – больш за 10 тысяч. Паспяхова вялася падрыхтоўка калінінскага акруговага слоўніка ў г. Клімавічы (акруга існавала ў 1924 – 1927 гг.).

На Віцебшчыне, дзе арганізатарам і навуковым сакратаром акруговага таварыства краязнаўства быў М. Каспяровіч, народныя словы збіраліся найбольш актыўна. За тры гады ў камісію ў Менск з тэрыторыі Віцебшчыны было даслана больш за 37 тысяч картак. Сам аўтар "Віцебскага краёвага слоўніка" пачаў запісваць віцебскую лексіку яшчэ з верасня 1924 года, часу, калі ён быў прызначаны інспектарам Віцебскага акруговага аддзела народнай асветы і стаў бываць "у полі" па службовых акалічнасцях. Пазней М. Каспяровіч запісваў словы ў адпаведнасці з інструкцыяй Інбелкульта, да пачатку 1926 г. ён меў ужо больш за 10 тысяч запісаў. М. Каспяровіч арганізаваў інтэнсіўны збор лексікі ў рэгіёне, у які ўключыліся звыш 200 настаўнікаў, аграномаў, паштальёнаў, работнікаў хат-чытальняў. За паўтара года яны перадалі ў слоўнікавую камісію Віцебскага акруговага таварыства больш за 36 тысяч картак-слоў, якія разам з сабранымі самім М. Каспяровічам запісамі, а таксама з запісамі, якія паступілі ад пэўных арганізацый і калектываў, паслужылі картатэкай пры ўкладанні слоўніка. Першыя апрацаваныя літары слоўніка былі перададзеныя на рэдагаванне ў Інбелкульт ужо ў ліпені 1926 года, а выдадзены слоўнік быў у Віцебску ў 1927 годзе.

Слоўнік складаецца з 9703 слоў, зафіксаваных у 591 населеным пункце былой Віцебскай акругі. Аднак гэта былі не толькі рэгіянальныя словы: часткова ў рэестр была ўключана і агульнаўжывальная беларуская лексіка. З'яўленне слоўніка было вялікай падзеяй для рэгіёна, асабліва для яго адукацыйных і культурных устаноў. Яшчэ да яго выдання Віцебскі аддзел народнай асветы замовіў 800 асобнікаў для сваіх патрэбаў.

З аднаго боку, сучаснае выданне "Віцебскага краёвага слоўніка" слоўніка ўяўляе сабой помнік тым шматлікім людзям, якія ўнеслі ўклад у яго падрыхтоўку. З другога, дазваляе нам больш пазнаць беларускую мову ўвогуле і ў яе віцебскай іпастасі, у прыватнасці.

*Сяргей Запрудскі*
*arche.by*

# БЕЛАРУСКАЯ ЛАЦІНКА

**З 21 па 27 студзеня энтузіясты адзначаюць у інтэрнэце чацверты Тыдзень беларускай лацінкі.**

Шкада, што ў апошнія гады ў беларускамоўным асяродку, здаецца, прайшла мода на лацінку. Праект **Łacinka.org** заўчасна памёр і толькі, дзякаваць Богу, он-лайн лацінізатар беларускіх тэкстаў яшчэ дзейнічае. Ці даўно ім хто карыстаўся?

Знікненне моды на лацінку прыйшлося прыкладна на той самы момант, калі лацінка (пра што мала хто ведае) у крыху змененым выглядзе атрымала ў Беларусі афіцыйны статус — максімальна высокі, на які можна было б разлічваць у сённяшніх умовах. Менавіта лацінка павінна выкарыстоўвацца для транслітарацыі беларускіх геаграфічных назваў на мапах і ў афіцыйных дакументах, кажа афіцыйная інструкцыя, прынятая Дзяржаўным камітэтам па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Рэспубліцы Беларусь.

Лішне казаць, канечне, што ў рэальным жыцці гэта норма не выконваецца амаль ніяк. Больш за тое, у ангельскамоўнай Вікіпедыі нядаўна польскія і расійскія шавіністы такі дабіліся таго, што назвы беларускіх гарадоў пішуцца па-іхнаму: Grodno, Gomel, Mogilev. А што рабіць, калі самі не дужа абазнаныя ў лінгвістычных нюансах выканкамы ўсіх узроўняў на сваіх сайтах пішуць «Vitebsk» і «Baranovichi».

*Алесь Чайчыц*

**«НАША ЖИЗНЬ»** – общественная газета. Издатель – коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор – **Христафор Желяпов**. Вёрстка – **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# СПЫНІЦЬ АДМІНІСТРЫЦЫЙНУЮ СПРАВУ

**Георгі Станкевіч патрабуе, каб суд спыніў ягоную адміністрацыйную справу.**

Выдаўца і рэдактара газеты «Крывінка» з Бешанковіцкага раёна вінавацяць у парушэнні парадку распаўсюду выдання.

На 4 студзеня быў прызначаны суд, на які спадар Станкевіч не змог прыйсці з прычыны хваробы, але папярэдне ён даслаў скаргу з патрабаваннем спыніць адміністрацыйны працэс, бо лічыць, што дзеянні міліцыі падчас затрымання і следства парушылі яго канстытуцыйныя правы.

У заяве ён падкрэслівае, што не лічыць сябе правапарушальнікам, нагадваючы, што 5 лістапада яго затрымалі падчас распаўсюду выдання нібыта пасля ананімнага тэлефоннага званка ў РАУС. Як было запісана ў пратаколе, у міліцыю нібыта патэлефанавалі дзве жыхаркі райцэнтру Бешанковічы, якія паведамілі, што не выпісваюць «Крывінку», але знайшлі яе ў сваіх паштовых скрынях.

5 снежня Бешанковіцкі райсуд палічыў, што пратакол складзены непісьменна, і вярнуў яго на дапрацоўку ў міліцыю. З таго часу, піша спадар Станкевіч, «адбыліся шматлікія парушэнні нормаў Працэсуальна-выканаўчага Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях супрацоўнікамі Бешанковіцкага РАУС, якія цягнуць прававую адказнасць за парушэнне нормаў беларускага заканадаўства».

Парушэннямі заяўнік лічыць наступныя факты: 12 снежня ён спрабаваў абскардзіць складзены на яго адміністрацыйны пратакол, але адказу ад начальніка Бешанковіцкага РАУС не атрымаў; 19 снежня падчас апытання ў РАУС не было задаволена патрабаванне аб экспертызе Канстытуцыйным судом закона «Аб сродках масавай інфармацыі» наконт адпаведнасці Закона аб СМІ Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у частцы распаўсюду незарэгістраваных выданняў; не было задаволена і хадайніцтва наконт запрашэння кваліфікаванага перакладчыка, бо спадар Станкевіч у зносінах карыстаецца толькі беларускай мовай, але 21 снежня атрымаў пастанову начальніка ААПП Бешанковіцкага РАУС на рускай мове. Гэта, на думку Георгія Станкевіча, парушае яго права на карыстанне роднай беларускай мовай, стварае перашкоды і абмежаванні ў карыстанні дзяржаўнай беларускай мовай. Таму 22 снежня ён звярнуўся са скаргай да начальніка Бешанковіцкага РАУС наконт прадстаўлення пастановы на роднай беларускай мове. І 27 снежня атрымаў адказ ад начальніка Бешанковіцкага РАУС, дзе ў праве атрымаць пастанову на роднай мне беларускай мовеяму адмовілі.

Георгі Станкевіч падкрэслівае, што за час следства не атрымаў ніводнай пісьмовай позвы ў пастарунак, хаця неаднаразова казаў, што хоча даць свае паказанні. Таксама яму не паведамілі аб завяршэнні падрыхтоўкі справы аб адміністрацыйным правапарушэнні да перадачы ў суд, як таго патрабуе заканадаўства.

Таму ён не толькі патрабуе спыніць справу, бо не лічыць сябе вінаватым, але і настойвае, каб былі належным чынам пакараныя асобы, якія парушылі Працэсуальна-выканаўчы Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь.

*Чытаць цалкам: http://nn.by/?c=ar&i=66112*

# ГОВОРИТЕ ПО-БЕЛОРУССКИ!

Белорусскоязычный формат книги или газеты уже сам по себе позволяет выстроить некую иную, белоруссоцентричную картину мира, позволяет легитимировать проявления якобы провинциальности в качестве, если хотите, "культурных особенностей"

Проблемы белорусского языка у нас принято обсуждать по-белорусски, что понятно, но всё-таки в корне не правильно. Белорусскоязычное сообщество или большинство по крайней мере читающих на белорусском людей - не те, с кем следует дискутировать по поводу ценности белорусского языка.

Белорусы – нация сегодня в основном русскоязычная. Стыдливая лукашенковская мотивировка этого критики никакой не выдерживает: русский язык давно перестал быть языком передовой науки, языком современной литературы – всё это случилось даже раньше, чем он перестал быть языком второй в мире сверхдержавы. Показушным "прагматикам" давно пора переходить тогда уже на английский.

Русскоязычность белорусов - результат целенаправленной и недружественной государственной политики, которая длилась два с половиной столетия, которая с введением общего начального русскоязычного образования и с распространением эфирных СМИ одержала решающую (но не окончательную) победу, и которая по совершенно анекдотически абсурдной инерции продолжается по сей день.

При этом надо отдавать себе отчёт, что даже став частью русскоязычного пространства, Беларусь может в нём претендовать только на роль в лучшем случае второстепенную. Русскоязычная культурная продукция из Беларуси априори вторична и априори навеки обречена подражать российскому эталону, вечно плыть в его фарватере, догонять его и никогда не догнать – подобно тому, как речевой аппарат большинства городских белорусов так и не научился произносить литературное русское "ч", выговаривая вместо него какое-то изнасилованное гипертрофированно мягкое "щ". Русскоязычный белорус априори был и будет провинциалом, клиентом и потребителем культуры метрополии – России или производителем культурной продукции, подражающей российской – которая сегодня и сама по себе грешит вторичностью по отношению к Западу.

На этом фоне белорусскоязычный формат книги или газеты уже одним своим явлением, уже сам по себе позволяет выстроить некую иную,

## ІНФАРМАЦЫЯ

У Віцебску працуе Еўрапейскі Інфармацыйны цэнтр. Жыхары горада могуць атрымаць неабходную інфармацыю пра Еўразьвяз і дзейнасьць інстытутаў ЕЗ кожныя чацьвер з 15.00 да 19.00, суботу з 12.00 да 18.00, нядзелю з 11.00 да 17.00. Запрашаем на вул.1-ю Сенненскую, д.5. Кантактны тэл. 27-23-39

# СПЯВАЕМ РАЗАМ ПЕСНІ ”ФІЛАМАТАЎ” І “ФІЛАРЭТАЎ”

Супольна з грамадскімі арганізацыямі раёну і рёгіену, нашымі сябрамі і прыхільнікамі з Полацку і Наваполацку, у рамках сустрэчаў з вядомымі асобамі ў галінах гісторыі, мастацтва, паэзіі, мы запрасілі на гэты раз групу творцаў, якія нясуць у наша жыццё паэзію вядомых стваральнікаў студэнцкага Таварыства Віленскага ўніверсітэта першай чвэрці Х1Х стагоддзя - **Адама Міцкевіча, Тамаша Зана.**

Таварыства “філаматаў”, што з грэчаскага азначае - ”прыхільнікі навук”, і “філарэтаў”, з таго ж грэчаскага - “прыхільнікі дабрачыннасці”, аб’яднанае спачатку Твардоўскім, а потым яго працу працягнуў таленавіты Фаддзей (Тамаш) Зан, вяло актыўную працу сярод студэнцкай моладзі. Пад уплывам высокіх ідэалаў дабрачыннасці Адам Міцкевіч, наш знакаміты зямляк, пісаў для яго песні. Іх чыстае жыццё дало яму натхненне для напісання знакамітай “Оды да моладзі.”

Больш гадзіны доўжылася імпрэза. Вершаваныя радкі, пакладзеныя на музыку як вядомымі беларускімі кампазітарамі, так і выканаўцамі, Аляксеем Жбанавым і Зміцерам Занеўскім, узбуджаючы душу, гучалі ў зале. http://bsdp.org/?q=en/node/11001

# ПАМЯЦІ ВІНЦЭНТА ДМАХОЎСКАГА

**150 гадоў таму памёр мастак Вінцэнт Дмахоўскі, бацька беларускага пейзажа.**

22 лютага 1862 года не стала Вінцэнта Дмахоўскага, якога называюць «бацькам беларускага пейзажа». Па значнасці для беларускай культуры ён не саступае Марку Шагалу.

У свой час Дмахоўскі меў каласальную славу. Яго параўноўвалі з французскім пачынальнікам новай пейзажнай школы Клодам Ларэнам. Дмахоўскі нарадзіўся ў 1807 годзе на Ашмяншчыне, вучыўся ў Віленскім універсітэце ў Яна Рустэма.

Да Дмахоўскага пейзаж выконваў функцыю афармлення, найчасцей проста як заднік карціны. А Дмахоўскі зрабіў пейзаж асобным жанрам і, што важна, гэта былі нашыя пейзажы — ваколіцы Вільні, Нясвіж… Бывалі і нечаканыя карціны — лясныя пажары, напрыклад.

Тады модна было маляваць краявіды Італіі, а Дмахоўскі маляваў родныя мясціны, што дало развіццё патрыятычнай жывапіснай плыні.

На жаль, у Беларусі няма ніводнай карціны Дмахоўскага, некалькі з ягоных пейзажаў захаваліся ў Вільні. Многія карціны былі проста страчаныя — лёс Дмахоўскага быў няпросты. Падчас навучання



Дмахоўскі быў сябрам таемных студэнцкіх таварыстваў, праз што трапіў у расійскае войска. Яму было 24 гады, калі адбылося паўстанне 1831 года. Ён тады быў паручнікам у войску, але ўзяў найактыўнейшы ўдзел у паўстанні.

Зразумела, пасля яму давялося з’ехаць у Парыж, пасля ў Італію. Вярнуўся Дмахоўскі дахаты толькі пасля амністыі 1837-га для ўдзельнікаў паўстання, і працаваў на Радзіме ў сваім маёнтку. Частка ягоных карцін пагарэла падчас пажараў у маёнтках, частка вывезеная. Памёр Дмахоўскі ў 1862 годзе ва ўзросце 55 гадоў. Вельмі шкада, што цяпер выбітны мастак-рамантык, бацька беларускага пейзажа, амаль забыты

*Сяргей Харэўскі*

Чытаць цалкам: http://nn.by/?c=ar&i=68911

# ГОВОРИТЕ ПО-БЕЛОРУССКИ!

белоруссоцентричную картину мира, позволяет легитимировать проявления якобы провинциальности в качестве, если хотите, "культурных особенностей" и создать психологические предпосылки для хотя бы мысления вне российских категорий и тем более для выражения чего-то своего собственного. В духе главной белорусской проблемы конца XX века – лучше ли жить в собственном доме, чем в коридоре у соседа. Или вопроса – "тварь" ли "дрожащая" или "право имею", на который все десятилетия без тени сомнения на автомате был готов наш самодовольный и прагматичный типично белорусский ответ: "чё я, рыжий что ли? Конечно же тварь!"

Чтобы быть культурно самостоятельными и не обладать национальным языком, надо иметь совсем недавнюю собственную историю как культурной метрополии, как Австрия, или наоборот историю вооружённой борьбы за свои права, как Ирландия, или хотя бы находиться на отдельном континенте на противоположном конце планеты, как Австралия.

Так что ценность собственного языка – именно что не в его "технических характеристиках", не в мнимом благозвучии и в случае с белорусским языком даже не в его морфологической уникальности, с антиисторическими "дзеканьем", которое есть только в польском, и "аканьем", которого среди окрестных языков больше нет вообще нигде. Оно и не в том, сколько на нём было написано и издано литературы (тем более, что поддерживать белорусский язык, ради этого забывая язык русский и не уча тот же английский – вы же не всерьёз думаете, что это кто-то предлагает?)

**Прелесть белорусского языка в том, что это что-то исключительно своё, такое, какого больше ни у кого нет.** Иметь свой язык и пользоваться им – это значит, что нам есть, что этому миру предъявить, у нас есть, чем выделиться среди других и есть чем заявить о себе, хотя бы на уровне символа. Это полезные вещи, которым белорусам надо учиться.

Отрицательная селекция в течении многих веков привела именно к тому, что мы, белорусы, меньше своих соседей любим выделяться на фоне местности и забивать голову чем-то более возвышенным, чем поиск пропитания. Но именно это и есть те качества, преодоления которых требует далеко не только интересы сохранения белорусского языка. Скорее наоборот, белорусский язык как раз способен в этом преодолении помочь. Говорите на нём, пользуйтесь им.

*Алесь Чайчыц*